# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 45 (1237) ГОД XXIV БЕЛАСТОК 11 ЛІСТАПАДА 1979 г. ЦАНА 1 зл.



**На роднай зямлі.** Новыя жылыя блокі ПГРу ў Бельску. Фота Я. Целушэцкага.

# ДЗЕЛЯ ШЧАСЦЯ, ДЗЕЛЯ ДАБРАБЫТУ

Партыя паставіла на ўсеагульную абмяркоўку свае ўказанні на VIII з'езд „За далейшае развіццё сацыялістычнай Польшчы, за поспехі польскага народа", якія пасля ўсебаковай дыскусіі поўнасцю адобрыла апошняе XVI пленарнае пасяджэнне Цэнтральнага Камітэта Польскай аб'яднанай рабочай партыі.

Свае **указанні** партыя накіроўвае ў адрас усіх грамадзян краіны. **Гэта высокі давер, з якога вынікае грамадзянскі абавязак актыўнага ўдзелу ў спрэчках над выпрацаваннем нашай супольнай, з многіх магчымых найлепшай, найбольш эфектыўнай дарогі да пабудавання свайго ўласнага шчасця, да памнажэння свайго дабрабыту.**

Партыя не дае нам гатовых рэцэптаў на лепшую будучыню. Яна звяртаецца да народу з агульнымі указаннямі, якія вынікаюць з ацэнкі пройдзенага шляху. Такую ацэнку можа правесці кожны з нас: што змянілася ў нашай сям'і, у вёсцы, на заводзе, у гміне, у горадзе?

І як бы не наракалі мы на цяжкасці штодзённага жыцця, калі падсумаваць усё шчыра і добрасумленна, высветліцца, што сталі мы ўсё ж багацейшыя, што за гэты час прыдбалі сабе шмат чаго новага, што зарабляем непараўнальна больш, як дзесяць гадоў таму назад, што раптам паявіліся ў нас новыя патрэбы і мары, тады яшчэ зусім нерэальныя. Вось прыклад: нейкіх паўгода таму назад мой сябар купіў сабе аўтамабіль. Праўду кажучы, ён яму так неабходны, як балячка на мяккім месцы, але сябар аднак не пашкадаваў звыш ста тысяч злотых, каб для сваёй трохасабовай сям'і прыдбаць „малюха". І гэтыя грошы зарабіў ён чыстасумленна. Гэта факт. Факт таксама, што ён **мог** зарабіць, бо дзесяць гадоў таму назад не прыйшло б яму ў галаву марыць аб пакупцы аўтамабіля. Цяпер сябар наракае, што дарагі бензін. Толькі забывае ён пры гэтым, колькі аўтамабіляў кожны дзень папаўняе матарызаваную сям'ю нашай краіны, колькі трактароў і камбайнаў разносіць нафтавы дым па дзяржаўных, спулдзельчых і прыватных палях! Адных гэтых жа „малюхаў" фабрыка ў Тыхах неўзабаве будзе выпускаць па 250 тысяч у год! Значыць, такіх „сяброў", як мой Янка, кожны год будзе ўсё больш і больш.

Быў я нядаўна ў вёсцы Чыжыкі. Яна знаходзіцца крыху з боку ад праязджных, так сказаць, выставачных дарог. Зацікавіла мяне адна хата, упрыгожаная шматкаляровымі народнымі малюнкамі. Гаспадыня запрасіла ў сярэдзіну, а там, як у агародзе — усе сцены ў кветках, сучасная мэбля і поўная хатняя механізацыя, разам з вадой у кранах. Каб яшчэ каму з маладых было астацца дома на зямлі, хаця і трактар на панадворку грукоча, і ў аборы тэхніка максімальна аблягчае працу, але яны, дзеці, прайшоўшы школу, аказаліся патрэбнымі ў горадзе або ў суседнім мястэчку. Дык і добра. Гэта ж таксама вынік буйнага развіцця нашай краіны, прамысловасць якой усё яшчэ патрабуе новых, адукаваных людзей.

На аснове пакінутай сялянамі зямлі толькі ў нашым наваколлі ўзніклі новыя дзяржаўныя і кааператыўныя гаспадаркі, як для прыкладу ПГР у Бельску і Міхалове, як спулдзельні прадукцыйныя ў Рыбалах і Паўлах.

І зноў гэтае ж самае: чуюцца нараканні на іх гаспадаранне, на вытворчыя недахопы. Аднак нікто яшчэ ў свеце — і на Захадзе, і на Усходзе — не знайшоў іншага спосабу на поспех у сельскай гаспадарцы, як канцэнтрацыя зямлі і спецыялізацыя ў вырошчванні нейкіх збожжавых культур ці карнеплодаў, або спецыялізацыя ў адной галіне жывёлагадоўлі.

Прыклады тут кожны з нас мае свае. Іх асноўны сэнс зводзіцца да аднаго: **трэба нам працаваць.** Кожны на сваім месцы, там дзе яго лёс паставіў, але працаваць сумленна, як толькі найлепш мы зможам, бо „*няма іншай крыніцы грамадскіх поспехаў, чым праца*", як гаварыў у сваім выступленні на XVI пленуме Эдвард Герэк. Праца і ашчаднасць — разумная, разважлівая ашчаднасць. І не толькі ўласных грошай. Але таксама ўсяго таго, што праходзіць праз нашы рукі, там, дзе мы працуем, дзе жывем і дзе кожны дзень даводзіцца нам бываць.

Указанні не абяцаюць нам ані ружовых перспектываў, ані гаспадарчых цудаў. Партыя бачыць цяжкасці нашага жыцця і яўна пра іх гаворыць з народам. Пры ўсіх складаных унутраных і знешніх абставінах вызначаем мы сабе мэты на вышэйшай перакладзіне гаспадарчага і грамадскага развіцця. Яго рамкі дакладна акрэсліць VIII з'езд Польскай аб'яднанай рабочай партыі. Распачнецца ён у Варшаве 11 лютага 1980 года.

**Віктар Рудчык**



**Пачын.** Фота В. Рудчыка.

# Пчаляр

Для многіх людзей расказаць пра сябе — нялёгкая справа. І галоўнае не ў здольнасці, а хутчэй за ўсё ў сціпласці. Сцяпан Шумскі пражыў ужо 82 гады, а жыццё яго было цяжкае і працавітае. Кнігу можна было б напісаць аб ім. Зямлі было нямнога. Падзарабіць не было дзе. Не хапала людзям работы пры санацыйнай Польшчы. І каб не выключныя самародныя здольнасці Сцяпана Шумскага, было б яму зусім дрэнна. Але пры бацьку навучыўся ён сталярцы і цяслярцы. І стаў лепшым майстрам ад бацькі. Пачаў выконваць усякую будаўляную работу. Нават вятрак пабудаваў. Але сапраўдную славу прынесла яму ўменне будаваць калодзежы, хаця і пры гэтай рабоце сустракаўся ён са шматлікімі цяжкасцямі, таму што ўсё выконвалася саматужна. І хваляванняў нямала было. Асабліва тады, як сам ён сцвярджае, калі да сцюдзёнай і смачнай вады дакопваўся і ў напружанні чакаў, як яна сустрэне.

Ад 1939 года Сцяпан Шумскі ўзяўся за пчалярства. Купіў у Фірсовіча з Відава некалькі вулляў і пачаў разбудоўваць сваю пасеку. Пчалярства паглынула яго цалкам. Наконт таямніц пчалінага жыцця ён можа расказваць без канца: аб тым, як у канцы жніўня пчолы пачынаюць выганяць трутняў і рыхтавацца да зімы, аб тым, што сіла



пчаліных сем'яў у плодных матках, што для адкачкі мёду лепш за ўсё адбіраць соты, у якіх пчолы пачынаюць пячатаць верхнія слаі ячэек і такі мёд дастаткова спелы. Але чакаць запячатання прызначанага для адкачкі, не варта, бо пчолы, калі ў гнёздах ёсць запоўненыя соты, працуюць павольна, і таму пакідаюць да запячатання толькі тыя соты, якія прызначаны для зімова-вясенняга кармлення пчол.

На пасецы Сцяпана Шумскага цяпер больш 40 вулляў. Нягледзячы на свае пажылыя гады, ён дакладна і з уменнем займаецца пчалярствам. Іншымі работамі ён амаль не займаецца, калі не лічыць штодзённых хатніх абавязкаў. А іх у апошні час значна прыбыло. Больш увагі ён мусіць удзяляць сваёй жонцы Сцепанідзе, якой ужо 80 год і ў якой пагаршаецца зрок. Праўда, яны, старыя людзі, тут не адзінокія, жывуць у адной хаце са сваім жанатым сынам Рыгорам, які тут лічыцца гаспадаром.

У Сцепаніды і Сцяпана Шумскіх, апрача Рыгора, ёсць дзевяцёра дарослых дзяцей, два сыны і сем дочак, якія маюць сваіх дзяцей, а нават і ўнукаў. Часта так здараецца, і гэта ў асноўным на Ілью, што з усіх канцоў Польшчы

(Працяг на стар. 5)

Імпартгумар

## КОЖНАМУ СВАЁ

Як толькі я сяду за руль нашага новага аўтамабіля, а мая Герміна, вядома, побач, так і пачынаецца:

— Адпусці стартэр, Вілі, матор ужо даўно працуе! Націсні на педаль счаплення, — так, ну а цяпер уключы першую хуткасць. Зноў пра ручны тормаз забыўся?! Стой! Вунь чырвонае святло! Божа, не тармазі ты гэтак рэзка! Зялёны! Ды крануйся ты хутчэй, а то ўвесь рух затрымліваеш! А веласіпедыста ты бачыш? Ідзе на абгон...

І так вось то гэта, то тое, то іншае. Горш, як у аўташколе.

А ўчора нам устанавілі новую газавую пліту. Як толькі Герміна пачала першы раз варыць на ёй абед, я быў тут як тут:

— Кран адкруці, Герміна! Запальвай! Полымя зрабі большае! А цяпер каструлю стаў. Во! І памешвай у правы бок, пасля ў левы. Хутчэй крыху, інакш усё варыва згарыць. Полымя зрабі меншае! Далі вады! Яшчэ раз добра памяшай! Пасаліць! Солі дасып! Зноў пра перац забылася?! І зноў памешвай!

Сёння разам ездзілі ў горад. Герміна мне больш не перашкаджала.

**Генрых Зэйдэльбаст**




З „Весніка Задрыпоніі“

[illegible]

Сёння ў актавай зале Задрыплітакадэміі слухаецца персанальная справа паэта С. Салавейчыка. Білеты прадаюцца.

ПАРАДА ТРАЎМАТОЛАГА

Не капай іншаму яму.






*Без слоў.*

### ЗДЗІВІЎ

— Прабачце, пані, тут жыве студэнт Лайдакевіч?

— Студэнт? Дзіўна, я была ўпэўнена, што ён начны вартаўнік.

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

— Я таксама вырашыла пісаць музыку, — даверліва кажа самаўпэўненая маладзіца вядомаму кампазітару.

— Дарэчы, якім чынам вы мне параіце пісаць?

— Злева направа, сіньёра.

✼

— Хацеў бы я аднойчы даведацца, колькі ў мяне родзічаў?

— Гэта вельмі проста зрабіць. Купі сабе дачу.

✼

У музеі адзін наведвальнік сеў на старадаўняе крэсла. Служыцель музея з абурэннем сказаў яму:

— Як вы маглі сесці на гэтае крэсла? Гэта ж крэсла самога Гётэ!

— Не хвалюйцеся, калі ласка. Калі пан Гётэ прыйдзе, дык я ўстану, — адказаў наведвальнік.

### У СУДЗЕ

— Скажыце, калі абвінавачаны назваў вас насарогам?

— Год таму назад.

— А чаму ж вы толькі зараз падалі на яго ў суд?

— Бо я толькі ўчора ўбачыў насарога па тэлевізары...



*— Затое я спакойны, што выключыў яго.*

[illegible]

РАЗУЧВАЕМ БЕЛАРУСКІЯ ПЕСНІ




## ЗОРКА ВЕНЕРА

**Словы М. Багдановіча**
**Музыка народная**

Зорка Венера ўзышла над зямлёю,
Светлыя згадкі з сабой прынясла.
Помніш, калі я спаткаўся з табою,
Зорка Венера ўзышла.

З гэтай пары я пачаў углядацца
Ў неба начное і зорку шукаў.
Ціхім каханнем к табе разгарацца
З гэтай пары я пачаў.

Але расстацца нам час наступае;
Пэўна, ўжо доля такая у нас...
Моцна кахаў я цябе, дарагая,
Але расстацца нам час.

Буду ў далёкім краі я нудзіцца,
Ў сэрцы любоў затаіўшы сваю;
Кожную ночку на зорку дзівіцца
Буду ў далёкім краю.

Глянь іншы раз на яе, — у расстанні
З ёю зліем мы пагляды свае...
Каб хоць на міг уваскрэсла каханне,
Глянь іншы раз на яе...

### ЗМЕНЫ

— Што змянілася ў тваім жыцці пасля жаніцьбы?

— Раней брудныя шкарпэткі я адносіў маці, каб тая іх памыла.

— А цяпер іх мые жонка?

— Не. Цяпер яна іх адносіць.

### НЕВІДЗІМКІ

— Алё, гэта цырк?

— Ён самы.

— Мне патрэбен дырэктар.

— Я вас слухаю.

— Што ж вы робіце, дарагі таварыш?! У афішах сказана, што ў прадстаўленні будзе прымаць удзел група ліліпутаў, а на самай справе ніякіх ліліпутаў не было.

— Гэта не зусім так. Нашы ліліпуты настолькі маленькія, што вы іх проста не заўважылі.

### НА ВЫСТАЎЦЫ

— А што, уласна кажучы, вы хацелі сказаць, калі малявалі гэты пейзаж?

— Я маляваў моўчкі, — абыякава адказаў мастак.

### КАГО БАЯЦЦА!

Прагучаў званок, і Кастусь паціху адчыніў дзверы. На парозе стаяў кум.

— А чаму гэта ты, Кастусь, не пытаеш, хто да цябе ідзе? А раптам — злодзей?

— Ну і што, — махнуў рукою гаспадар. — Калі мая жонка дома, дык мне ўжо больш баяцца няма каго.

*— А яе ўсё няма...*

МІНІВЕРШЫ

### ПЛЁН ВЫХАВАННЯ

*На руках насілі сына:*
*Шчэ малы, расце хлапчына.*
*Вырас хлопец, пасталеў...*
*І на шыю родным сеў.*

**Барыс Кавалерчык**

### І БОЛЬШ НІЧОГА

*У атэльe пад назвай „Індпашыў“*
*Сымон Міхайлавіч дырэктарам служыў.*
*Працёр на крэсле да спружын тканіну*
*І не пакінуў больш нічога для ўспаміну.*

**У. Мацвеенка**

### КАРОТКАЯ ПАМЯЦЬ

Пані Нэлі знайшла ў кабінеце свайго мужа цэлую батарэю пустых бутэлек.

— Адкуль яны ўзяліся? — спытала яна ў мужа.

— Не ведаю, кветачка, — адказаў той. — Пустых бутэлек я ніколі не куплю.

## КУРЪЁЗЫ

### ВЫРУЧЫЛА ТУРМА

Французскі мастак Жан Мантфорт, які зараз жыве ў Лос-Анджэлесе, у апошнія гады набыў шумную славу падрабляльшчыка. Пачаў ён з капіравання работ такіх вядомых майстроў, як Пікасо, Буффет, Утрыла і іншых, а подпіс ставіў свой і прадаваў гэтыя творы па добрых цэнах.

Абураная такой нахабнасцю грамадскасць пачала шумна пратэставаць у прэсе. Жану Мантфорту было прад'яўлена абвінавачванне ў плагіяце, і ён сеў на лаву падсудных. Знаходзячыся ў зняволенні тры гады, якія нечакана выгадна вызначылі яго далейшае жыццё.

Аднойчы да Жана Мантфорта звярнуўся дырэктар турмы з просьбай зрабіць для яго рэпрадукцыю адной карціны Пікасо. Той з радасцю выканаў важны заказ. Але выйшла так, што нецярплівы турэмшчык прыйшоў раней, чым рэпрадукцыя была гатова. Мастак вымушаны быў папярэдзіць яго, што Пікасо пакуль што не высах. Так было сказана менавіта таму, што турэмшчык папрасіў мастака не прэтэндаваць на аўтарства гэтай работы: маўляў, хай Пікасо застаецца Пікасо.

Пасля таго, як Жан Мантфорт выйшаў на волю, тыя свае словы „Пікасо яшчэ не высах“ ён зрабіў назвай кнігі ўспамінаў. У ёй падрабязна апавядаецца пра жыццёвы і творчы шлях падрабляльшчыка і плагіятара. Кніга з'явілася своеасаблівай рэкламай творчасці плагіятара. Многія амерыканцы купляюць Пікасо фальшывага. Плацяць за кожны такі твор не менш 25 тысяч долараў.

МЫ І ЯНЫ

У магазіне, запісана ў акце, мышы з'елі бочку селядцоў. А што яны там выпілі ад смагі?